ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР.

№ 37 (1571) | Пятніца, 12 мая 1961 года | Цана 4 кап.

# ПЛАНЫ І КЛОПАТЫ ЗОДЧЫХ

## VII з'езд беларускіх архітэктараў

Новае ў беларускай архітэктуры—галоўная тэма гарачай і плённай размовы, якая разгарнулася на з'ездзе архітэктараў рэспублікі.

Вельмі многа новага ў творчай і будаўнічай дзейнасці нашых зодчых. Ім належаць праекты новых беларускіх гарадоў Новаполацка, Салігорска, Шацілак (кожны з іх —на 50—60 тысяч жыхароў).

Беларускія архітэктары стварылі багата добрых праектаў жылых, грамадскіх і вытворчых будынкаў, характэрных удалымі канструкцыйнымі, функцыянальнымі і мастацкімі вырашэннямі.

Тыпавыя праекты сталі асновай для ўкаранення індустрыяльных метадаў будаўніцтва і павышэння яго эканамічнасці.

Ва ўсё большых маштабах выкарыстоўваюцца прагрэсіўныя метады горадабудаўніцтва. Замест раскіданай забудовы гарадоў цяпер узводзяцца вялікія масівы, мікрараёны. Разгорнута вопытна-паказальнае і эксперыментальнае будаўніцтва. Цікавыя ў гэтых адносінах—праект прадзільнай фабрыкі Брэсцкага дываноўага камбіната, эксперыментальныя дамы ў саўгасе «Волма».

У Мінску пабудаваны першы ў Савецкім Саюзе эксперыментальны рамнакаркасны аб'ёмна-элементны дом і эксперыментальныя дамы з вібрацагляных панелей.

Мікрараён па Сталінградскай вуліцы ў Мінску атрымаў ухвалу замежных гасцей з Польшчы, Чэхаславакіі, Карэі і з саюзных рэспублік. Аднак вопыт яго забудовы трэба дасканала абагульніць, каб у новым будаўніцтве не паўтарыць некаторых хібаў, якія тут ёсць, асабліва ў стварэнні культурна-бытавых устаноў. Сур'ёзную ўвагу трэба звярнуць на школьныя і дзіцячыя ўстановы, дамы для маласямейных і адзіночак.

У дакладзе Л. Мацкевіча і ў выступленнях дэлегатаў былі названы многія творчыя ўдачы беларускіх зодчых, якія сведчаць аб сталасці іх майстэрства.

Беларускія архітэктары атрымалі Ганаровы дыплом Дзяржбуда СССР, Саюза архітэктараў СССР і Масгарвыканкома за конкурсны праект эксперыментальнага жылога раёна Паўднёвага захаду Масквы, а таксама больш ста медаляў Выстаўкі дасягненняў народнай гаспадаркі СССР.

Нашы архітэктары па даручэнню партыйных і савецкіх органаў значна ўдасканалілі і ўдакладнілі планы забудовы гарадоў рэспублікі, а па Мінску і Віцебску распрацаваны па сутнасці новыя планы. У выніку гэтага створаны лепшыя магчымасці для далейшага развіцця гарадоў. Больш рацыянальна вырашаны магістральныя сеткі ў гарадах і інжынернае абсталяванне іх тэрыторый. Прадугледжана і рэканструкцыя старых гарадскіх тэрыторый.

Нягледзячы на вялікія маштабы праектавання перспектыўнай сістэмы развіцця і размяшчэння прадукцыйных сіл рэспублікі, архітэктары вырашаюць і праблемы арганізацыі адпачынку працоўных. Мяркуецца ў санаторна-лячэбных мэтах выкарыстаць раёны возера Нарач, лепельскіх і асвейскіх азёр, лепш выкарыстаць прыродныя багацці Заслаўскага водасховішча, стварыць новыя вадаёмы вакол Мінска.

У дакладзе Л. Мацкевіча значная ўвага была аддадзена сельскаму будаўніцтву.

— Задачы далейшага ўздыму сельскай гаспадаркі,—сказаў дакладчык,—выклікалі неабходнасць рэарганізацыі забудовы, архітэктурнага аблічча і інжынернага абсталявання вёсак у мэтах паступовага набліжэння іх да ўзроўню пасяленняў гарадскога тыпу. Гэта стала асновай творчай дзейнасці многіх архітэктараў. Пачата складанне ўзорных схем планіроўкі і забудовы калгасных вёсак і саўгасных сядзіб, а таксама раённых цэнтраў.

Схемы прадугледжваюць упарадкаванне землекарыстання, вызначэнне спецыялізацыі і перспектыў калектыўнай гаспадаркі. І на гэтай аснове будуць створаны буйныя населеныя пункты. Шматпавярховыя дамы з водаправодам, каналізацыяй, цэнтральным ацяпленнем і інш. будуць размешчаны ў іх з улікам рэльефу мясцовасці.

У дакладзе адзначаліся недахопы ў будаўніцтве і праектаванні новай калгаснай вёскі.

— Ёсць яшчэ такія кіраўнікі калгасаў і саўгасаў,—падкрэсліва Л. Мацкевіч,—якія часта размяшчаюць будынкі выпадкова, без усякіх праектаў, што парушае планавую перабудову вёсак. Яшчэ не распрацавана метадалогія складання схем раённых планіровак і ўнутраных планаў кожнай гаспадаркі. Да гэтага часу дакладна не вырашана пытанне аб архітэктурным аблічы новага сельскага населенага пункта, аб памерах дамоў і іх унутраным абсталяванні.

На з'ездзе было расказана аб манументальным афармленні плошчаў і іх планіроўцы.

Па транспартнаму і аб'ёмнаму вырашэнню прызнана ўдалай плошча імя Якуба Коласа ў Мінску і вопыт стварэння яе будзе ўлічаны пры пабудове цэнтральнай плошчы імя Леніна ў сталіцы.

На плошчах Мінска, Віцебска, Гомеля, Маладзечна і іншых гарадоў узведзены манументы Ул. І. Леніна. Але не заўсёды планіроўка іх была ўдалай. У Брэсце, напрыклад, манумент не стаў цэнтрам архітэктурнага ансамбля, а ў Магілёве памер скульптуры—ў дыспрапорцыі з п'едэсталам.

У развіццё галоўнай тэмы размовы—аб новым у беларускай архітэктуры—у выступленнях было выказана многа цікавых думак, канкрэтных прапаноў. Нельга не пагадзіцца з архітэктарам С. Мусінскім, што галоўная задача зодчых—стварэнне архітэктуры нашага часу, у якой былі б еднасць формы і зместу, разумнае і смелае выкарыстанне новых будаўнічых матэрыялаў, высокі эстэтычны густ, адпаведны густу савецкіх людзей.

Многа было сказана на з'ездзе аб задачах, якія ў бліжэйшы час належыць вырашыць беларускім будаўнікам.

Ул. Кароль гаварыў аб тым, што генеральныя планы нашых гарадоў, якія былі распрацаваны на 20—25 год, ужо ўстарэлі. Так, напрыклад калі раней меркавалася, што колькасць насельніцтва Мінска праз дваццаць год будзе складаць 600 тысяч чалавек, дык цяпер ужо ёсць падставы думаць, што за гэты перыяд сталіца Савецкай Беларусі вырасце ў горад з мільённым насельніцтвам. А гэта карэнным чынам мяняе генеральны план забудовы горада. Тое самае назіраецца ў Гомелі і Гродна, дзе жыхароў хутка будзе больш, чым меркавалі складальнікі планаў.

Архітэктарам належыць выправіць памылку ў планаванні прывакзальных плошчаў, дзе не ўлічана неабходнасць пабудовы аўтавакзалаў.

Няма ў цэнтры гарадоў рэзерву тэрыторыі, напрыклад, для будаўніцтва школ, а патрэба ў школах кожны год узрастае. І гэта неабходна ўлічыць у новых праектах і планах.

Лепш трэба размясціць прамысловыя аб'екты, каб яны не засяроджваліся ў адным раёне горада.

Вялікая ўвага павінна быць аддадзена развіццю заводскага буйнапанельнага будаўніцтва як галоўнага напрамку тэхнічнага прагрэсу ў жыллёвым будаўніцтве рэспублікі.

Аснова ансамблевай забудовы жылых комплексаў і мікрараёнаў — тыпавыя праекты. Майстэрства савецкага архітэктара можа з асаблівай дасканаласцю праявіцца ў горадабудаўнічым вырашэнні комплексаў, кварталаў, мікрараёнаў. а гэта патрабуе дакладнага ведання законаў кампазіцыі вялікіх прастораў, абавязковага ўліку прыродных умоў, дзе разгортваецца будаўніцтва.

Шырокую творчую праграму давядзецца выканаць майстэрні па буйнапанельнаму домабудаўніцтву Белдзяржпраекта. У першую чаргу ёй трэба вырашаць праблемы колеру, новых матэрыялаў, асобных дэталей, першых паверхаў новых дамоў і іншыя.

У выступленнях Б. Грубіна, Л. Мацкевіча і іншых слушна падкрэслена неабходнасць удумлівага праектавання прыгожай і таннай малагабарытнай мэблі для маламетражных кватэр. У гэтай галіне ёсць вялікі і станоўчы вопыт у літоўскіх майстроў. Трэба яго выкарыстаць з максімальнай карысцю для развіцця мэблевай прамысловасці Савецкай Беларусі.

Размова на з'ездзе была цікавай і змястоўнай. Яна сведчыць аб глыбокім разуменні беларускімі архітэктарамі свайго абавязку перад народам.

Аднак яна была б яшчэ больш плённай, калі б поруч з архітэктурна-будаўнічымі пытаннямі больш шырока разгарнулася дыскусія па творчых архітэктурна-эстэтычных праблемах. Гэтыя тэмы, калі і закраналіся, дык толькі ў асобных выступленнях (Ул. Стальмашонак, І. Белагорцаў, Ул. Кароль і інш.) і пераважна ў агульнай форме. А між тым, праблемы мастацкай формы, стылю сучаснай беларускай архітэктуры заслугоўваюць сур'ёзнай тэарэтычнай і творчай распрацоўкі. З гэтым маюць непасрэдную сувязь праблемы традыцый і наватарства, сінтэзу архітэктуры, скульптуры і жывапісу, унутранага і вонкавага афармлення грамадскіх і жылых будынкаў, манументальная прапаганда і інш.

Саюз архітэктараў часам (разам з Дзяржбудам) наладжваў абмеркаванне розных праектаў, але вельмі рэдка вялася размова аб выніках іх ажыццяўлення.

У Доме архітэктара працуе студыя малюнка і акварэлі, быў і, ча жаль, цяпер ужо не існуе гурток афорта. Тут чыталіся лекцыі пра творчыя плыні ў сучаснай зарубежнай архітэктуры, па некаторых праблемах развіцця сучаснай савецкай архітэктуры і іншыя. Гэта добра. Але, мяркуючы па справаздачы праўлення, тут было небагата цікавых творчых сустрэч з вучонымі, жывапісцамі, скульптарамі і выканаўцамі задум архітэктараў. На жаль, і на з'ездзе не было прадстаўнікоў сумежных мастацтваў.

Многа спрэчак на з'ездзе выклікалі прынцыпы і практыка забудовы эксперыментальнага мікрараёна на Сталінградскай вуліцы Мінска. Зразумела, што ў гэтай справе павінны перш-наперш разабрацца спецыялісты. Але не менш карыснай была б сустрэча архітэктараў і інжынераў з жыхарамі мікрараёна. Яны падказалі б зодчым і будаўнікам многа цікавага для іх далейшай працы ў гэтай галіне. Такую сустрэчу можа наладзіць Саюз архітэктараў.

З'езд паказаў, што беларускія архітэктары рыхтуюцца дастойна сустрэць XXII з'езд КПСС новымі творчымі перамогамі.

На з'ездзе выбрана праўленне Саюза архітэктараў у складзе 15 асоб (старшыня праўлення В. Ладыгіна).

# Гэта ўзбагачае

Цікавай падзеяй было выступленне артысткі Пінскага народнага тэатра Тацяны Сівохінай на сцэне Тэатра імя Ленінскага камсамола Беларусі ў спектаклі «Кухарка». Лёгка было зразумець хваляванне выканаўцы: ёй жа ўпершыню давялося іграць разам з вопытнымі акцёрамі.

Ці справіцца Т. Сівохіна з галоўнай роллю, ці здолее перадаць своеасаблівасць характару Паўліны Хутарной — гэта трывожыла ўсіх, хто прысутнічаў на спектаклі.

З першага з'яўлення на сцэне актрыса прыцягнула ўвагу гледачоў сваёй трактоўкай вобраза. Усе чакалі, што ўбачаць на сцэне бойкую, вострую на язык маладзіцу. Такой іграе Паўліну на сцэне Брэсцкага тэатра артыстка Н. Ганчарэнка.

Але вось адкрываецца заслона. Ля пліты брыгаднай кухні стаіць маленькая жанчына з туга павязанай вакол галавы залацістай касой. Хуткімі і спрытнымі рухамі яна перастаўляе посуд, мяшае кашу, мые, выцірае лыжкі і міскі. Кухарка занята працай і таму на рэплікі Пчолкі адказвае мімаходзь, паміж справаю. Уваходзіць брыгадзір Чайка. У дыялогу з ім Т. Сівохіна дае выразную экспазіцыю вобраза калгаснай кухаркі. Ужо ў гэтым эпізодзе становіцца ясна, што Паўліна — Сівохіна — натура незвычайная, чалавек са сталым характарам і прынцыповымі поглядамі на жыццё.

З першых жа сцэн кухаркі з Галінай Сахно глядач пачынае разумець розніцу паміж імі. Заслуга Т. Сівохінай і рэжысёра І. Сакольскага ў тым, што за сюжэтнымі паваротамі камедыйнага дзеяння яны разгледзелі гэтую розніцу і, каб падкрэсліць яе, гранічна канкрэтызавалі фігуру Хутарной.

Т. Сівохіна паказвае сваю гераіню чалавекам цвёрдай волі і вытрымкі. У дыялогах-сутычках з Сахно і Казанцам Паўліна — Сівохіна заўсёды выходзіць пераможцай, бо ёй дапамагаюць цвёрдая перакананасць у сваёй праўдзе, уменне трымаць сябе ў руках — якасці, якіх яўна не хапае яе «праціўнікам». Чым мацней «распаляюцца» Галіна і Сцяпан, тым спакайней і насмешлівей кідае рэплікі Паўліна.

На сцэне Пінскага гарадскога Дома культуры Т. Сівохіна сыграла многа роляў. І характэрна, што самадзейная артыстка заўсёды трохі «прыўзнімае» сваіх гераінь, знаходзячы і акцэнтуючы ў іх вобразах рысы рамантычнай адухоўленасці. Так і ў аблічча Паўліны Хутарной выканаўцу захапіла яркая нацыянальная самабытнасць характару, прыгажосць душэўнага свету простай сельскай кухаркі. Любоў павінна быць гордай — вось думка, якая для Т. Сівохінай вызначае асноўны змест ролі і кіруе ўсімі паводзінамі яе Паўліны. Не выпадкова апошняя размова з Казанцам у трэцім акце аказваецца ключавой сцэнай для разумення вобраза, створанага артысткай.

Т. Сівохіна даказвае правамернасць свайго тлумачэння вобраза Паўліны Хутарной. Самадзейная выканаўца прынесла ў пастаноўку Тэатра імя ЛКСМБ тэму светлага кахання, і ў спектаклі стала яшчэ больш сонца, радасці.

Выступленне майстроў на аматарскай сцэне ўзбагачае тэатральнае мастацтва, зближае яго з народам. Але не менш важнае і патрэбнае пачынанне — удзел таленавітых артыстаў народных тэатраў у спектаклях прафесіянальных калектываў. Думаецца, што ініцыятыва брастчан знойдзе падтрымку і адабрэнне ва ўсіх тэатрах рэспублікі.

**М. РЫБАКОЎ.**

Брэст.

---

Кожны пяты трактар у нашай краіне вырабляецца на Мінскім трактарным заводзе.

Дастойную сустрэчу рыхтуе калектыў трактаразаводцаў XXII з'езду КПСС. Першынство ў спаборніцтве трымае сталеліцейны цэх. Штодзённа перавыконваюць зменныя заданні сталявары: І. Кісялёў, А. Салдатаў, А. Азараў і інш.

На здымку вы бачыце сталявара **А. Азарава** і яго падручнага Сяргея **Салаўя**, якія ўзялі абавязацельства да дня адкрыцця XXII з'езда КПСС выплавіць 600 тон сталі і сэканоміць 45 тысяч кілават-гадзін электраэнергіі. На сённяшні дзень яны далі больш 200 тон сталі звыш плана і сэканомілі каля 20 тысяч кілават-гадзін электраэнергіі.

ГЕРОІ НАШЫХ ДЗЁН

# ВЯСНОВЫ НАСТРОЙ

★ Міхась ДАНІЛЕНКА ★

Цурчаць, звоняць па каменьчыках воды клапатлівай Начы. Бяжыць рэчка праз густы лясок, дзе на вастраверхіх ялінах, быццам тыя свечкі, жаўцеюць тугія шышкі, спяшаецца праз палі, дзе азіміна ўжо выпростваецца пад сонцам. А на застаўках, пад мостам, што на цэнтральнай сядзібе саўгаса, нават пагрозліва булькоча хвалямі: ведай, маўляў, нашых: не такая я ўжо і маленькая рачулка, як можа здацца на першы погляд.

Прыляцелі гаспадарлівыя шпакі. Многа іх тут у дуплістых таўшчэзных таполях і ліпах. Сядзяць шпакі на галінках ля сваіх домікаў, весела пасвістваюць, перадражніваюць адзін аднаго—радуюцца вясне, сонцу. У лесе, што пачынаецца адразу ж за Свянцінскім, зацвітаюць кветкі баравога сону. Адна, другая, трэцяя, быццам блакітнаватыя зорачкі.

— Дзевачкі,—звініць шчаслівым голасам тоненькая, як тая чароцінка, непаседа Ніна Малашэвіч.—Зацвіў баравы сон! А пралескі я яшчэ ўчора бачыла.

— Не можа быць,—падае голас са свайго ложка Маня Кулік.—Так рана?

— А што ж такога?—пярэчыць чарнявая, стрыманая Вольга Монцік.—Час ужо. Пойдзем, дзяўчаткі, хто не заняты на рабоце, букеты збіраць?

— Вядома ж, дзевачкі, вядома, — аж падскоквае кучаравая Ніна. — Ідзём зараз жа.

Шчупленькая Ніна Малашэвіч на выгляд дзяўчо-падлетак. Нават яе сяброўкам і то часам не верыцца, што гэта яна, Ніна, ужо каторы час працуе на такой адказнай і нялёгкай рабоце—даглядала свінней, а цяпер маладняк гадуе.

— Вы ідзіце,—ляніва пацягваецца на ложку Маня Кулік.—А я яшчэ паляжу: драмаць хочацца,—проста страх...

Вольга адкінула з ілба непакорную пасму валасоў і з дакорам паківала галавой.

— І не сорамна табе, Маня?—ціха сказала яна.—Хоць бы вось іх, Ніны і Гані, пасаромелася. Хіба мы менш за цябе стаміліся?

— Яна пасаромеецца, як жа,—прамовіла са злосцю Ганя Жмырка, накідваючы на галаву цёплую хустку.—Няхай сабе дрэмле. Усё роўна яна ў лесе толькі нам настрой сапсуе...

Вольга пераабулася ў боцікі, апранула паліто, і яны выйшлі з пакоя. На шафе пастукваў будзільнік, што купілі ў складчыну. Толькі Маня Кулік адмовілася даваць грошы.

У ліпавых прысадах заходзіліся адзін перад адным гракі. Ля крайніх дамоў Свянціцкага нехта біў па жалезе. Вольга прыслухалася.

— Ідзіце цішэй, дзяўчаткі,—папрасіла яна.— А я збегаю, пагляджу, ці не прыехаў, нарэшце, каваль.

Брыгадзір Іван Барыскін колькі разоў прасіў, каб з цэнтральнага аддзялення саўгаса «Нача» яму на які дзень прыслалі каваля: трэба было падладзіць плугі, паправіць падвесную дарогу на свінаферме.

— Прышлю, Ваня. Заўтра ж прышлю,—абяцаў дырэктар Аляксандр Якаўлевіч Ліпаўка.

І з-за сотні больш важных, неадкладных спраў забываўся паслаць.

Монцік павярнулася і пабегла назад. Дзяўчаты прыцішылі крок і, ідучы ў лес, ціха перагаварваліся.

— Добрая яна, наша Волька,—у роздуме гаварыла Ганя.—Шчырая. І сэрца харошае. Не ведаю, як хто, а я тую Маньку Кулік даўно вытурыла б з работы. Ты ж была ўчора, Ніна, як Барыскін загадваў станкі пасыпаць вапнай?

— Была.

— Дык жа паленавалася. Нам чырванець прыйшлося за яе.

Колькі часу яны прайшлі моўчкі. Кожная думала пра Вольгу Монцік — іхнюю другую сяброўку. У Вольгі праца ў руках, здаецца, гарыць, і сама яна быццам аж свеціцца, калі любую работу выконвае. Кажуць, што празмерная пахвала можа ўскружыць галаву чалавеку. А Вользе не ўскружыла. Дзяўчына такая сціплая, якой была і год, і два, і тры гады назад. Пра яе ведаюць не толькі на Брэстчыне. Усёй рэспубліцы вядома іхняя Вольга Канстанцінаўна Монцік. Ордэнам Леніна ўзнагароджана, вялікім сярэбраным медалем Усесаюзнай выстаўкі. У другі раз у абласны Савет выбралі...

У лесе было зацішна. Пахла вільгаццю, мохам, перапрэлай ігліцай. У вершалінах стромкіх елак ледзь чуўся ціхі, раўнамерны шум. Ніна ўзрадавалася, калі знайшла прыгожыя кветачкі баравога сону. Дзяўчына прытуліла да запунсавелых шчок халаднаватыя пялёсткі і шчасліва засмяялася. Няхай, як хоча, разважае тая Маня Кулік, а яны вось—Ніна, Вольга і Ганя—такія шчаслівыя. І, можа, нават і не выкажаш у двух словах, у чым тое шчасце іхняе. Ніна ўспомніла, як аднойчы—было тое з паўгода назад,—прыехаўшы з Масквы, з Выстаўкі дасягненняў народнай гаспадаркі, Вольга задуменна сказала сяброўкам:

— Разумееце, дзяўчаты, шчасце, я думаю,—у працы, у служэнні людзям. — Яна трохі падумала, прыжмурыла чорныя вочы і яшчэ раз сцвярджальна кіўнула галавой.—Так, так — у працы. Хто ён, чалавек, што баіцца мазаля? Ніхто! Нікому ён не патрэбен і ніхто паважаць не стане таго, хто ад работы адвільвае.

Відаць, яна, іхняя Вольга Монцік, многа перадумала па дарозе з Масквы. Звычайна немнагаслоўная, дзяўчына разгаварылася і ўсё расказвала Ніне і Гані аб выстаўцы, аб Краснай плошчы, аб масквічах.

І тады вось, здымаючы ватоўку, азвалася Маня Кулік. Яна толькі што вярнулася з работы і прагрукала бруднымі кірзаўкамі ад парога.

— Шчасце,—яна штучна рассмяялася.—Ніхто можа не ведае, у чым яно... Вось скажы, толькі ад шчырага сэрца, ты, Волька, шчаслівая?

— Вядома.—Чорныя вочы Монцік здзіўлена глядзелі на сяброўку.—Я вельмі шчаслівая. Упэўнена: і яны тое ж пра сябе скажуць,—Вольга паказала на Ніну з Ганяй.

У той дзень яны ўпершыню паспрачаліся з Маняй Кулік. І, пагарачыўшыся (чаго ў спрэчках не бывае!), Ніна нават абазвала Маню мяшчанкай. Над ложкам тае вісеў танны дыванчык. На ім былі няўклюдна намаляваны алені, якія хутчэй за ўсё нагадвалі гончых сабак. Ніна сказала, каб выкінула Маня яго: толькі выгляд пакоя псуе такі «шэдэўр мастацтва». Маня надзьмулася і на наступны дзень дэманстратыўна перавесіла дыванчык яшчэ вышэй. Так і цямнеюць на сцяне тыя бязрогія алені, на якія Ніна не можа без грэблівасці глядзець...

— А я, дзяўчаткі, ледзь не дагнала вас,—адсопваючыся, загаварыла Вольга.

Яна ішла з вёскі нацянькі, расчырванелася, хустка ў яе з'ехала на плячо.

— Малайчына наш Барыскін,—гаварыла яна.— Сам стаў за каваля. Колькі мы намучыліся з той ваганеткай, што з падвеснай дарогі звальвалася! А ён замяніў у ёй ролікі, і цяпер коціцца яна, як новая...

Каля поля ляжаў вялікі валун. Вольга дакранулася да яго далонню. Камень нагрэўся на сонцы. У шчарбінках на ім пачаў ужо расці мяккі скубун-мох. Нешта трохі здрыганулася на сэрцы ў дзяўчыны. Такі ж вось камень запомніўся ёй, тады маленькай Вольцы, як хавалі яе бацьку...

— Дзяўчаты,—папрасіла Вольга.—Вы збірайце кветкі, а я трошкі пасяджу. Ціха тут, хораша...

...Якраз такое вось цяпло ішло ад нагрэтага сонцам каменю, на які пасадзіў некалі яе старэйшы брат Пятрусь на могілках. Калі памерла маці, Вольга і не помніць—колькі ёй тады было? А вось смерць бацькі запомнілася.

Ляжаў ён, Канстанцін Монцік, на покуць галавой, і маленькая Волька, быццам загіпнатызаваная, глядзела і глядзела на вузлаватыя бацькавы рукі.

— Глядзі, дзіцятка, запамінай, сірацінка!—галасіла бабка Гілярыха, падводзячы Вольку, якая аж дрыжала ад страху, да лавы, дзе ляжаў бацька.—Няхай вочанькі твае запомняць яго...

— Сціхні, старая. І так моташна,—зашыпеў на Гілярыху дзядзька Алесь.—Не сірацінка яна. Запомні гэта. І не вярэдзь дзіцяці душу. Не вачамі, а сэрцам яна запомніць бацьку...

Быў ля Быценя Югалінскі дзіцячы дом. Туды неўзабаве і прывёз Вольку дзядзька Алесь. Пачалося для дзяўчынкі новае жыццё.

Не сказаць, каб яно было дрэнным. Трохі толькі часам сумна рабілася, што няма ўжо ў яе болей ні маці, ні бацькі. Бо хіба не хочацца дзіцяці, каб зноў бацька пагушкаў яго на руках, падкінуў пад самую столь, каб смешна паказытаў калючымі вусамі? Ды з'явіліся новыя сябры. І жылі яны ў дзіцячым доме ўсё роўна як адна сям'я,—зладжана, дружна. Ужо тады выхавацелі не маглі нахваліцца Вольгай Монцік.

— Шчыруха. Ростам усяго два вяршкі, а і падлогу памые, і вады прынясе, і яшчэ і карову падоіць,—гаварылі яны.

— Малайчына, Волька,—сказаў аднойчы выхавацель Анатоль Мікалаевіч, вельмі скупы на пахвалы і, як думалі дзятдомаўцы, чарстваваты чалавек.—Рукі на тое і дадзены чалавеку, каб праца ў іх гарэла.

Часцяком наведваліся ў дзіцячы дом Пятрусь і дзядзька Алесь.

— Расцеш,—гаварыў дзядзька, пасадзіўшы насупраць сябе пляменніцу.—У жыццё хутка пойдзеш. Сёмы ж клас канчаеш... У камсамол не ўступала яшчэ?

— Не ўступала.

Вольчына жыццёвая біяграфія толькі тады пачыналася.

Анатоль Мікалаевіч пасля вёз сваіх выхаванцаў Вольгу Монцік і Міхася Агафонава сюды, у саўгас «Начу». І яны здзівіліся, што не такі ён ужо сухар, гэты Анатоль Мікалаевіч, як ім здавалася. Развітваючыся з Вольгай і Міхасём, выхавацель нават праслязіўся.

— Слаўныя дзеткі,—гаварыў ён дырэктару саўгаса, разгублена засоўваючы хусцінку ў кішэню пінжака.—Неразбэшчаныя. Працу паважаюць.

— Калі працу паважаюць, у нас іх таксама будуць паважаць,—сказаў дырэктар.—Не турбуйцеся. Людзі ў саўгасе харошыя. Дапамогуць кожнаму на ногі стаць, не толькі вось ім, маладым.

Працаваць у свінарнік Вольга Монцік пайшла сама. Помніць, як шыракаплечы, прысадзісты Андрэй Кулеш, што працаваў на кормазапарніку, здзіўлена агледзеўшы яе, запытаўся:

(Заканчэнне на 2-й стар.).

## У майстэрні скульптара

Скульптар С. Селіханаў працуе над помнікам выдатнаму дзеячу Камуністычнай партыі і Савецкай дзяржавы, таленавітаму палкаводцу і арганізатару Савецкіх Узброеных Сіл Міхаілу Васільевічу Фрунзе, які будзе ўстаноўлены ў Мінску. На здымку — рабочая мадэль помніка

# Мастакі робяць справаздачу

## ТЫДЗЕНЬ ВЫЯЎЛЕНЧАГА МАСТАЦТВА

Апошнія гады мастакі Беларусі сканцэнтравалі сваю ўвагу на тэмах з жыцця працоўных горада і вёскі. Пра гэта сведчаць нядаўнія выстаўкі іх твораў, якія з кожным годам выклікаюць усё больш шырокую цікавасць у гледачоў.

Мастакі рыхтуюцца цяпер да ўдзелу ва Усесаюзнай мастацкай выстаўцы 1961 года, якая адкрываецца ў Маскве да XXII з'езда КПСС. Як і ўсе савецкія людзі, яны імкнуцца сустрэць з'езд новымі творчымі дасягненнямі, унесці свой уклад у агульнанародную справу будаўніцтва камунізма.

Вынікі Усесаюзнай выстаўкі дазволяць вызначыць ясную і шырокую дарогу далейшага развіцця савецкага, у тым ліку і беларускага мастацтва.

Беларускія мастакі добра разумеюць, што яны яшчэ адстаюць ад эстэтычных запатрабаванняў народа. Многія з'явы нашай рэчаіснасці яшчэ не знайшлі належнага адлюстравання ў творах мастакоў, глыбіня пранікнення ў сутнасць з'яў, узровень мастацкага майстэрства яшчэ не могуць поўнасцю задаволіць.

Зарукай паспяховага вырашэння ўсіх гэтых задач з'яўляецца шырокае адлюстраванне мастакамі жыцця народа. Народ — не толькі спажывец мастацтва, але і лепшы суддзя. Яго інтарэсы і спадзяванні павінны ўлічвацца як найшырэй і гэта забяспечыць няўхільны рост мастацтва. Вось чаму Саюз мастакоў Беларусі за апошні час звяртае асаблівую ўвагу на арганізацыю цеснай сувязі з масамі, шырокую папулярызацыю мастацтва ў народзе.

Праведзены ўжо сустрэчы мастакоў з рабочымі, калгаснікамі, інтэлігенцыяй на рэспубліканскай выстаўцы і ў час творчых камандзіровак мастакоў. Значна пашырылася лекцыйная прапаганда выяўленчага мастацтва, у тым ліку праз народныя ўніверсітэты культуры.

Цікавым мерапрыемствам з'явіцца «Тыдзень выяўленчага мастацтва», які будзе праходзіць з 14 па 20 мая.

Раней праводзіўся «Дзень мастака»—у азнаменаванне вядомага ленінскага Дэкрэта аб манументальнай прапагандзе, які быў прыняты 12 красавіка 1918 года. У дэкрэце Ленін падкрэсліваў галоўную задачу савецкіх мастакоў, —актыўны ўдзел у камуністычным выхаванні народа і прапагандзе ідэй сацыялізма.

Ленінскі план манументальнай прапаганды набыў значэнне праграмы развіцця савецкага выяўленчага мастацтва. Праведзеныя па нашай краіне Дні мастака знайшлі самы шырокі водгук у грамадскасці і абудзілі шырокую цікавасць народных мас. Таму было вырашана «Дзень мастака» ператварыць у «Тыдзень выяўленчага мастацтва».

Жывапісцы і скульптары, графікі і прадстаўнікі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва выступяць у час Тыдня са сваімі новымі творамі перад гледачамі.

Шматлікія выстаўкі твораў, сустрэчы майстроў мастацтва з працоўнымі на прадпрыемствах, у калгасах і саўгасах, ва ўстановах і ў навучальных установах, у майстэрнях мастакоў, лекцыі і гутаркі дапамогуць шырэй пазнаёміць народ з творчай працай мастакоў, а мастакоў—з жыццём народа.

Будзе праведзены рад масавых мерапрыемстваў. На Цэнтральнай плошчы ў Мінску ўпершыню будзе разгорнута выстаўка скульптуры. Вялікую работу правядзе Беларускі мастацкі музей. У яго залах, апроч лепшых твораў, створаных беларускімі мастакамі за апошнія гады, разгорнута веснавая выстаўка жывапісу, на якой экспануюцца самыя апошнія творы мінскіх мастакоў. На працягу Тыдня выстаўкі адкрыюцца ў клубе аўтазавода, у калгасах і саўгасах. Мастакі пачнуць шырокую работу па прапагандзе мастацтва ў калгасах і саўгасах.

Мастакі Беларусі ў час Тыдня шырока адчыняць дзверы майстэрань для народа. Пра творчы працэс, пра сваю працу раскажуць скульптары З. Азгур і А. Бембель, А. Глебаў і С. Селіханаў; жывапісцы Я. Зайцаў, М. Савіцкі, П. Крохалеў, М. Воранаў, Я. Красоўскі, А. Гугель і многія іншыя.

Урачыстым будзе дзень 14 мая ў шахцёрскім гарадку Салігорску. З будаўнікамі і шахцёрамі сустрэнецца вялікая група мастакоў. Яны перададуць у дар клубу салігорскіх рабочых творы жывапісу і графікі, прысвечаныя гэтай будоўлі.

Шырока будзе папулярызавацца выяўленчае мастацтва на экранах кінатэатраў рэспублікі, па радыё і тэлебачанню і праз друк.

«Тыдзень выяўленчага мастацтва» з'яўляецца сведчаннем клопатаў Камуністычнай партыі аб развіцці мастацтва, аб стварэнні багацця духоўнай культуры савецкага народа.

**П. НІКІФАРАЎ,**
старшыня праўлення
Саюза мастакоў БССР.

